www.nv-online.info

# Народная Воля

№ 4 (4153)

13 студзеня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ЧУЛІ?

## Андрэю Бандарэнку пагражае дадатковае пазбаўленне волі

Праваабаронца Андрэй Бандарэнка, які адбывае пакаранне, абвінавачваецца на падставе ч.2 арт.411 КК (злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы, што выконвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі, здзейсненае асобай, якая асуджана за цяжкае ці асабліва цяжкае злачынства або дапусціла асабліва небяспечны рэцыдыў). Яму пагражае дадатковае пазбаўленне волі да двух гадоў.

22 снежня 2015 года Бандарэнка быў пераведзены са шклоўскай калоніі ў турму №4 Магілёва. 31 сакавіка 2017 года ў яго заканчваецца тэрмін зняволення. Але вось над ім навісла чарговая пагроза застацца ў турме яшчэ на пэўны тэрмін.

Бацька Андрэя Бандарэнкі Валерый Бандарэнка ў лістападзе 2016 года адзначаў, што на яго сына накладвалі абсурдныя спагнанні, напрыклад за тое, што ён нібыта ляжаў на нарах у дзённы час і чытаў кнігу. «Усё ідзе да таго, што яго не выпусцяць з турмы», – заяўляў Валерый Бандарэнка.

РЭХА ВАЙНЫ

## Нішто не забыта...

*Ва Украіне распачата крымінальная справа па факце ўдзелу грамадзяніна Беларусі ў баявых дзеяннях на баку сепаратыстаў.*

Як паведамляе прэс-служба пракуратуры Луганскай вобласці, Новаайдарскім аддзелам Севераданецкай мясцовай пракуратуры ажыццяўляецца працэсуальнае кіраўніцтва ў крымінальнай вытворчасці па факце ўдзелу грамадзяніна Беларусі ў складзе не прадугледжаных законам узброеных фарміраванняў, якія прывёў да гібелі людзей (ч.5 арт.260 КК Украіны), інфармуе БелаПАН.

Імя фігуранта не называецца. Мяркуючы па ўсім, гаворка ідзе пра 33-гадовага жыхара Віцебска Сяргея Трафімава, інтэр'ю з якім беларуская служба Радыё Свабода апублікавала на сваім сайце.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Прад'яўлена абвінавачанне...

Сайт "Народнай Волі" першым паведаміў пра здарэнне ў навагоднюю ноч на вуліцы Любімава ў Мінску. Тады на пляцоўцы каля сваёй кватэры быў паранены 28-гадовы работнік «Кераміна». У яго двойчы страляў міліцыянер. Абодва апынуліся ў шпіталях: міліцыянт – з чэрапна-мазгавой траўмай, гаспадар кватэры – з агнястрэльнымі раненнямі.

І вось учора старшыня Следчага камітэта Беларусі **Іван Наскевіч** паведаміў, што мінчаніну, які падазраецца ў нападзе на міліцыянера, прад'яўлена абвінавачанне.

Паводле версіі ГУУС, 28-гадовы супрацоўнік «Кераміна» «нанёс удар супрацоўніку міліцыі ў вобласць грудзей, пасля чаго яшчэ серыю ўдараў у галаву». Да таго ж ён "паспрабаваў завалодаць табельнай зброяй міліцыянта".

Жонка параненага гаспадара кватэры зусім інакш прадстаўляе сітуацыю. Маўляў, як толькі ён адчыніў дзверы, госці пачулі крыкі і стрэлы. Першай у тамбур выбегла яе сястра, на якую міліцыянер наставіў пісталет. Мужчына ляжаў на падлозе ў лужыне крыві. Міліцыянер, што страляў, адразу ж збег. На пляцоўцы засталіся яшчэ два міліцыянеры, але жонка параненага не ведае, прысутнічалі яны ў момант здарэння ці падышлі пазней.

Суседзі работніка «Кераміна» сцвярджаюць, што ён характарызуецца як спакойны чалавек, які ніколі не валодаў навыкамі рукапашнага бою і не меў пры сабе ніякай зброі.

*"Сын па-ранейшаму знаходзіцца ў ваенным шпіталі, але стан здароўя яго палепшыўся*, **– паведаміла "Народнай Волі" маці параненага хлопца.** *– Яго перавялі з рэанімацыі, хаця ён застаецца пад вартай. Таму, пачынаючы з 1 студзеня, ніхто з блізкіх не меў магчымасці з ім сустрэцца і пагаварыць".*

Што скажа суд – абавязкова паведамім чытачам "Народнай Волі".

БЕЗ РЭТУШЫ



Валерый КАРБАЛЕВІЧ

# Чаму «нафтагазавая вайна» набывае зацяты характар?

Гледзячы па ўсім, чарговая беларуска-расійская «нафтагазавая вайна» перайшла ў вострую стадыю. Найбольш яскравымі прыкметамі гэтага стаў байкот А.Лукашэнкам саміту ЕАЭС і АДКБ у Санкт-Пецярбургу, ягоная адмова падпісаць Мытны кодэкс саюза, пераход кіраўніка Беларусі да звыклай канфрантацыйнай рыторыкі: «Мы нікому не дазволім зняважаць наш народ і дзяржаву. Калі хтосьці гэтага не разумее, тады нам няпроста будзе з імі не тое што будаваць стасункі, але і размаўляць». Ну і адразу з Масквы прыйшоў жорсткі адказ: Расія яшчэ больш скараціла пастаўкі сваёй нафты Беларусі ў першым квартале.

Як і прынята на вайне, з'явіліся ваеннапалонныя (тры арыштаваныя блогеры сайта «Регнум»). Праўда, Расія іх не прызнала. Паводле савецкай традыцыі сталінскіх часоў, Масква вуснамі афіцыйных асоб заявіла: у нас няма палонных, ёсць экстрэмісты.

За часы праўлення А.Лукашэнкі Беларусь і Расія перажылі некалькі вострых міждзяржаўных канфліктаў. У 1997 годзе крызіс у двухбаковых дачыненнях здарыўся з нагоды арышту беларускімі ўладамі карэспандэнта "ОРТ" Паўла Шарамета. У 2002-м і 2004 гадах адбыліся канфлікты праз газавыя цэны, у апошнім выпадку Расія адключыла пастаўкі газу, што Лукашэнка ацаніў як «акт тэрарызму на высокім узроўні». На мяжы 2006-га і 2007 гадоў разгарнулася вострая «нафтагазавая вайна» з перакрыццём трубаправодаў і чарговымі скандальнымі заявамі. У 2009 г. дзве краіны перажылі «малочную вайну»; тады Лукашэнка таксама байкатаваў саміт АДКБ у Маскве, нейкі час адмаўляўся падпісваць дамову аб стварэнні Калектыўных сіл аператыўнага рэагавання. Крызісу ў двухбаковых дачыненнях 2010 года спадарожнічала інфармацыйная вайна, паказ на "НТВ" тэлесерыяла «Хросны бацька».

Чым цяперашні канфлікт адрозніваецца ад папярэдніх? Найперш іншым гістарычным кантэкстам.

Па-першае, Расія рэзка ўзмацніла сілавы кампанент у сваёй замежнай палітыцы, што спарадзіла ўкраінскі крызіс, «халодную вайну» з Захадам.

Па-другое, Беларусь у гэтых канфліктах РФ са светам заняла пазіцыю нейтралітэту.

Па-трэцяе, падзенне сусветных цэн на нафту пацягнула за сабой эканамічны крызіс у ЕАЭС, змяншэнне расійскага энергетычнага гранта Беларусі.

Па-чацвёртае, усё гэта супала з вострым крызісам беларускай сацыяльнай мадэлі.

Па-пятае, выбух шавіністычнай хвалі ў Расіі, на тле якой нейтралітэт найбліжэйшага саюзніка, ягонае пэўнае дыстанцыяванне ад Масквы разглядаецца палітызаванай часткай расійскага грамадства як «бандэраўшчына».

Як гэта ўсё ўплывае на цяперашні беларуска-расійскі канфлікт?

Дзве найбольш важныя высновы. Расійскія эканамічныя субсідыі Беларусі сталі меншыя, а патрэбы Беларусі ў дапамозе ў сувязі з крызісам сталі большымі. Гэтыя супрацьлеглыя трэнды прыйшлі ў вострую супярэчнасць, што і вылілася ў жорсткую спрэчку праз цэны на газ.

Другі момант. Большая незалежнасць Беларусі ад Расіі ў замежнай палітыцы (нармалізацыя стасункаў афіцыйнага Мінска з Захадам, нейтралітэт у канфліктах паміж РФ з ЗША і ЕС) адбываецца на фоне павелічэння эканамічнай залежнасці Беларусі ад усходняга суседа. Нагадаю: доля Расіі ў таварным экспарце Беларусі вырасла летась да 46%, хоць у 2015 годзе гэтая лічба складала 39%. Зноў два супрацьлеглыя трэнды. Лагічна, што ў Крамлі палічылі, што моцна залежны саюзнік павінен дэманстраваць лаяльнасць. Бо нелехуемы сатэліт – гэта нонсэнс.

І на нейкім этапе гэтыя аб'ектыўныя рознавектарныя тэндэнцыі павінны былі выклікаць канфрантацыю ў двухбаковых дачыненнях. Што мы цяпер і назіраем. Таму канфлікт і набывае такі зацяты характар, што ў ягонай аснове ляжаць аб'ектыўныя чыннікі.

(Радыё Свабода.)

НАДВОР'Е

## У бліжэйшыя дні – мокры снег

Сёння на большай частцы тэрыторыі Беларусі прагназуюць ападкі.

На асобных участках дарог магчыма галалёдзіца. Вецер будзе паўднёвы, 5–10 метраў за секунду, з парывамі да 14 метраў.

Днём чакаецца -3...+2$^{o}$С (у сталіцы – 0...-2$^{o}$С), у начныя гадзіны -1...-6$^{o}$С (на Віцебшчыне – да -8$^{o}$С, у Мінску -5...-7$^{o}$С).

У бліжэйшыя дні ўмовы надвор'я не зменяцца. На пачатку наступнага тыдня чакаецца невялікае пахаладанне.

ЭКСПЕРТИЗА




# Белорусы помогли властям рассчитаться по долгам



*В 2016 году белорусы купили валюты на сумму 5,723 миллиарда долларов (это с учетом безналичных платежей), а продали – 7,617 миллиарда. Нацбанк подсчитал, что чистая продажа наличной валюты населением составила 2,441 миллиарда долларов. Это много или мало? Если учесть, что взрослого населения в стране около 8 миллионов, то получается, что за год один белорус старше 18 лет обменял на рубли из своей заначки в среднем 305 долларов. Ликбез для читателей «Народной Воли» мы попросили провести финансового аналитика исследовательской группы BusinessForecast.by Александра МУХУ.*

– То, что в прошлом году населением продано на 2,441 миллиарда долларов больше, чем куплено, – очень приличный показатель по белорусским меркам, – считает эксперт. – Эти деньги стали серьезной поддержкой золотовалютных резервов Беларуси в условиях повышения выплат по государственным долгам в иностранной валюте. В 2016 году Беларуси надо было возвращать кредиторам 2,3 миллиарда долларов, плюс 1 миллиард требовался на обслуживание госдолга. И у Нацбанка появилась возможность скупать излишки валюты у населения и пройти пиковые платежи по валютным обязательствам в нормальном штатном режиме.

**– Но вряд ли белорусы думали о госдолге, неся валюту в обменники.**

– Безусловно, причина иная, и она на поверхности. Когда реальные денежные доходы населения ощутимо падают, а жить хочется на более-менее приемлемом уровне, приходится тратить сбережения.

Безусловно, у каждого свои запросы. Кто-то сдавал валюту, чтобы купить новую квартиру, а кто-то – и их большинство – для того, чтобы питаться не хуже, чем раньше, чтобы одевать детей, съездить на отдых и т.д.

Но нельзя однозначно сказать, что вся сумма чистой продажи – 2,441 миллиарда – это деньги из-под матраса. Белорусы в прошлом году достаточно активно изымали из банков валютные вклады – снимали не только проценты с депозитов, но и сами вклады. У меня нет статистики за весь прошлый год, пока опубликованы данные за январь–ноябрь 2016 года, так вот за 11 месяцев валютные депозиты физлиц сократились на 764 миллиона долларов. Однако если учесть, что все валютные сбережения населения в совокупности (валютные вклады, драгметаллы, валютные облигации) уменьшились на 520,9 миллиона долларов, то, значит, частично отток валютных депозитов населения компенсировался увеличением вложений в валютные облигации банков как наиболее доходные и наиболее ликвидные инструменты.

Поэтому цифру 520,9 млн (а за декабрь она наверняка несколько увеличилась) надо отнимать от 2,441 млрд долларов, чтобы узнать, сколько денег из-под матрасов достали белорусы. Приблизительно около 1,85 млрд долларов.

**– Получается, что белорусы предпочитают хранить валюту дома. Не доверяют банкам?**

– Получается, что да, и тогда возникает другой вопрос: а сколько еще у населения на руках хранится наличной валюты?

Такой статистики, конечно же, нет, только экспертные оценки. Могу поделиться своими наблюдениями. На начало 2016 года я оценивал сумму денежных сбережений в виде заначек населения в пределах 5–6 миллиардов долларов. Значит, на руках осталось 3–4 миллиарда. Но я думаю, что в этом году в обменники белорусы понесут меньше долларов и евро, объемы чистой продажи валюты населением сократятся. Потому что не оправдываются надежды на то, что кризис временный, нет объективных предпосылок, что ситуация в стране станет лучше, белорусов пугает будущее. На этом фоне людям будет сложнее расставаться с накопленной валютой: а вдруг наступят еще более тяжелые времена?

**– В каких еще странах существует такой показатель, как чистая продажа валюты населением?**

– В странах со слабой экономикой и слабой национальной валютой, в которых стоит проблема долларизации. В Германии, Франции и даже в Польше такой проблемы нет. А вот в России, Украине, других постсоветских странах проблема долларизации существует, и там публикуются данные о покупке и продаже населением валюты. Этот показатель можно рассматривать как некий индикатор, позволяющий определить уровень жизни населения, он дополняет картину общего состояния экономики страны. На данном этапе он свидетельствует о том, что произошло значительное снижение уровня жизни белорусов. В предыдущие годы население, наоборот, агрессивно скупало иностранную валюту, и еще в 2015 году мало кто из аналитиков мог предположить, что только за один 2016 год население достанет из-под матрасов почти 2 млрд долларов. Но для правительства это был приятный сюрприз, который позволил Нацбанку поддерживать стабильный курс рубля и рассчитаться по кредитным долгам в срок.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

**Коллаж Ирины ПУСТОВАЛОВОЙ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА



# Жест отчаяния

Отмена виз для граждан 80 государств, на пять дней решивших посетить Беларусь, это даже не наживка для рыбы, а, скорее, подкормка: вот попривыкнут, приедут на пять дней, потом еще на пять, а потом и останутся, ибо где еще так хорошо и чисто, как не в Беларуси?

Собственно говоря, манипулятивность такого жеста сомнений не вызывает. У нас чисто, но дорого и, простите, не слишком вкусно. В Киеве не так чисто (это правда), но намного вкуснее и тем паче все еще дешевле – поверьте, есть, с чем сравнивать. Но главное: а зачем? На кого рассчитано?

Открытость белорусского государства испытали на себе многочисленные граждане других – в том числе и европейских – государств. Включая тех, кто привез сюда деньги. Это я о господине Муравьеве, вложившем в минский «Мотовело» австрийские средства, а ныне за них же попавший на скамью подсудимых. Есть те, кого штрафовали и неоднократно – или однократно, но так, что беднягам потом уже ни на один день не хотелось к нам. Помню кошмарную историю о том, как у какого-то немца, задержанного на границе через 20 (!) минут после окончания срока действия въездного документа, якобы отобрали дорогущий автомобиль, а когда сей потенциальный инвестор попытался по судам добиться его возврата, выяснилось: оное транспортное средство уже находится в ведении Управления делами президента Беларуси времен госпожи Журавковой. Я в это не поверил бы, если бы историю не рассказал мне тогдашний посол Германии в Беларуси. Надеюсь, посол все же лгут в таких случаях.

Так зачем эти самые пять дней – чтобы прошвырнуться по минским магазинам? Я не так циничен, как многие жители интернета, убеждающие друг друга в том, что иностранцам предлагается воспользоваться услугами минских проституток – и улететь; а жрицы любви будут стоять у окошка в позе фрекен Бок из мультфильма о Карлсоне и повторять: «Он улетел, но обещал вернуться! Милый, милый...» Но я помню некоторых белорусских дипломатов и депутатов, с пеной у рта доказывавших мне: нельзя цену на визу даже для, скажем, чехов или поляков снизить – ибо налетят, сметут все с прилавков, улетят, а наш бюджет недосчитается некоторого количества так необходимых нам средств.

Что – белорусский бюджет с тех пор полнее стал? Тогда снизьте стоимость коммунальных услуг хотя бы для пенсионеров и матерей-одиночек.

Мне кажется, безвизовая пятидневка – это такой жест доброй воли, граничащий с отчаянием. Причем жест, адресованный всем одновременно – с разной трактовкой. «Ах, мы хорошие, мы добрые, мы открытые – дайте нам денег!» – это специально для европейцев. «Ах, мы вольные птицы, пора, брат, пора! Или дадите денег – или мы улетим на Запад и не вернемся!» – это уже трактовка для россиян (то-то они испугались). «Ах, мы бедные, несчастные, никто нам не хочет помочь, и никто нас не ждет в Европе», – это уже для своих сограждан после того, как выяснится, что и эта жестикуляция добром не закончилась.

Самая большая ерунда – рассчитывать на взаимную любезность Европы. Для справки: президент Украины Виктор Ющенко отменил визовый режим для граждан Европейского Союза, Канады, Швейцарии и Лихтенштейна с 1 сентября 2005 года. Взаимности не наступило. Причем не наступило даже тогда, когда Украина еще не была втянута в кровавую авантюру с «Новороссией» и «Крымнашествием». А уж сейчас президент Петр Порошенко действует с упорством форели, разбивающей лед, однако эпопея отказа Европы от виз для украинцев превратилась просто в сказку про белого бычка: все с удовольствием наблюдают за ее ходом, а некоторые даже злорадствуют, но...

В общем, предлагаю рассматривать всю эту акцию как не самый эффективный и не самый продуманный пиар со стороны нашего руководства. Как мне кажется, мораторий на смертную казнь имел бы больший эффект, чем сказки о безвизовой Беларуси.

